## ЗВАРОТ

Застацца тут? —
О свеце міласэрны,
Паблажлівы,—
не здзекуйся,
не змусь!
Жалобны крэп — сціскае Беларусь —
Па тысячах нявіннікаў памерлых.

Гарклявы смак
нянавідны,
старонні,
Знячулы вецер торгаецца ўслед.
За час былы табе хапіла бед;
Ад новае —
ніхто не абароніць.

Пакутны крык
дагэтулькі знямелы.
Бязмоўе! —
слова патрапляе ў лёх.
Мо жыў калісь на Беларусі Бог,
Але сканаў
на стручанае глебе.

Не змусь гібець,
хто чынны ці аблудлы;
Паблажлівы,
нязведаны —
не змусь!
Перасялі на неба Беларусь,
Перш чым яе адрынуць марным хлудам...

*1990*

## НАЧНОЕ СОНЦА

Мой розум спіць. Народжаны пачвары
Не на паперы — толькі ў чорных снах.
Але ўжо праяўляецца на твары
Глыбокі, неадольна-ціхі жах.

Мой розум спіць; але начное сонца —
Спагаднае свяціла са свяціл —
Пашле на дом мой д'яблароўны стронцый,
Напоўніць пылам чэрапа пацір.

Мой розум спіць; і ўжо бярэ ў абдоймы
Няўгледна і нячутна болесць-смерць.
І сто нашчадкаў пражывуцьма з болем.
А мне —
            заўчасна згінуць...
                                    анямець...

Мой розум спіць; нязнаная гаркота
Пасушыць безвыходнай смагай рот.
...Пачварны дождж.
                              ...Распачынае потым
Начное сонца свой колазварот.

*1989—1990*

## НА ЧУЖЫНЕ

Сем белых галубоў,
сем ветразяў надзеі
Раструшчыўшы ушчэнт,
ператварыўшы ў тло,
Ля стомленай вады
у жвір пусты
пасею,
Як зоймецца на ранне
паднебнае святло...

Саўю сабе гняздо
на чужаземным дрэве,
Забудуся на спеў
і вочы затулю
Бялюткім ручніком,
падораным на Крэўі,
І пер'е з крылаў скіну
на волкую зямлю...

Адтуль пачну свой дзень:
ні радасці, ні бедства:
Наўмыснік не дапне.
Галдунка ды нямко!
...І востраў,
і вада, бы ў колеры агрэсту —
Што ёсцека яшчэ —
адзінае! —
вакол!..
І гэта будзе рай:
без колераў і гукаў.
І гэта будзе сон:
без стомы і нуды.

Адна! —
ў сабе! —
памру!
І сонца ўдзень патухне,
Але прамень апошні зірне яго —
сюды...

Дзе белых галубоў,
дзе ветразяў надзеі —
Сем! — струшчыўшы ушчэнт,
ператварыўшы ў тло,
Ля стомленай вады
у жвір пусты пасею.
Іх нойдзе той, хто тут
саўе сабе жытло...

*1991*

* * *

Тады,
як Сон народзяць Свет і Вечнасць,
Апошнім пачуццём замрэ адчай,—
З бетону град найцішы у пустэчы
*І пыл,*
*і снег*
сцярусіць у ручай.

Не разгайдае вецер кволых кропляў.
Удзень не здзівіць сонцадайны ўспых.
Там толькі горад
з тысячы Нароўляў,
Істот няма...
Няма сярод жывых.

Адна душа блукае задуменнай.
Самнамбула.
Нічыйны з Раю госць.
Хай звабны — Рай.
Чужына не заменіць
Айчыну, што падобна на пагост.

Знямоглая сярод усіх нявінных...
Ей —
наракаць і скардзіцца на лёс?!
Яна сто жыццяў пражыве за сына
І пракляне імя яго:
Хрыстос.

*1990*

## ЗАБЫЦЦЕ

Засыпле пыл заплюшчаныя вочы.
Засыпле — пальцы з прыскам валяр'яну.
Сам Д'ябал Ночы памагці не схоча:
Душы няма! —
не купіш без падману.

А дзе яна? Ляціць да белай хмары,
Як птушаня нямоглае ў палёце.
(З народзінаў) яе збылася мара:
Знайшла мяне і —
ўвыш! на неба! годзе!

Не шкадавацьме...
Бо сівая змора
Перамагла таёмна і заложна.
Ды толькі пыл жыгучы —
яшчэ вораг
І назаўсёды ім застацца зможа.

Схавае абалонку пад панёву —
Няўсцерп засыпле сквапна, са стараннем...
...Ахвяр на Беларусі нойдзе новых.

Чарнобыльскага пылу панаванне!

*1990*

## ГОРАД

Гэты горад і дождж.
Непасрэдная злітнасць.
Я жадаю не меней сысці ў гэты дождж,
Чым бялюткія кроны
вясновай эліты,
Што люструе аблокамі іх
неба-Сож.

Гэты горад і дождж.
І мой крок несупынны.
Уздоўж цела сцякае вада, нібы воск.
Мой атручаны горад.
Самотны нявіннік.
Перакрэслілі мокрыя ніці наўскос.

Гэты горад, дзе дождж...
Кафедральным саборам
Ты на пляцы Айчыны стаіш да нябёс.
Над табою ляцеў быў бязлітасны воран.
Супакоіўся.
Попел чарнобыльскі строс...

Гэты горад і дождж...
Гэты воран і Сож...
Чакацьме...
...Чаго ж?

*1990*

* * *

Ўлагодзілі ногі апошні мой тракт.
Наперадзе — вечар:
ні даху,
ні веры.
У правай руцэ —
чорны ўзважлівы грак.
Задумлівы крук белы —
ў левай.

Іх вострыя крылы раскінуты ўшых:
Агнацца спяшайся,
хадыка бывалы!
А белы — ўвесь зрок...
А чорны — ўвесь слых...
Іх лёт не спакусіць,
хоць гнала.

Пакутлівы, цяжкі, падвоены хрост!
Пустэча навокал...
Цямрэча...
Бязмежжа...
Уголас пяройдзе адзін да пагроз,
А левы —
пяшчотай зкунежыць.

Апошнія крокі знамерна (наздзіў)
Заглыбяцца, счэзнуць у цішы.
...І выдзеўб мой розум зняўцерпу
адзін.
Зняўцерпу накрыў мяне
іншы.

*1988*

## РАМАНС

Ускрылены думкі:
мо цяжар гнятлівы
Ў сутонне зімовага шляху ўпадзе.
А подых зманлівае квецені слівы
Шчымлівае ў ростані сэрца найдзе.

Дай Бог табе, браце: каб тое мінула —
І холад чужынскі не хутаў цябе,
Аб шчасці пасулы здалёк —
не кранулі,
Дзе я да астатняе хвілі гібеў.

А покуль крыяю наяве
ці ў сненні:
У фатуме боскім
не нойдзем віны.
І лёгкім падасца нам час вызвалення,
Як скінем расстання з сябе кайданы.

...Але ўсё мінае пад вокам нябескім.
Мы стрэнемся, браце, у суджаны час.
Там прымецьме Лета дзве кволыя трэскі,
Дзве голыя дўшы без пекных прыўкрас.

*1990*

## ХАРЫТОН

Харытон, ляціць на Поўнач бусел...
У буслянках груганы паселі.
На самоту горную малюся.
Год трыццаты... Ранак шэры-шэры...

Харытон, змагаюся заўчасна
З небыццём, якое потым будзе.
Не цямрэча, але сонца гасне
І сіберны вецер голаў студзіць.

Харытон, найлюбыя хімеры
Адаб'юцца на табе стакротна.
Пабяжыш з гаротным стогнам звера
І памрэш на паўшляху зваротным.

Харытон, няшчасны мой абранец,
Для мяне і ўсіх сяброў забыты...
Хай буслы сваім абудзяць граннем,
Над табой выпростваючы крылы...

...Харытон, ляцяць буслы на Поўнач.
Зноў буслянкі груганы абселі...
Дзевяносты... Асалода?.. Горыч?..
Выйду ў ноч
на развітанне
з целам.

*1989*

## АПОШНІ ВЕРШ
## ПРА ВЕРШ ПЕРАДАПОШНІ

І ўжо даўно няма на свеце
Майго зацятага мавення.
Нарокаваным ходзіць ценем
Ад прыцемкаў
                    да пеўняў трэціх
Нямко.
        Ён — верш передапошні —
Спасцігнуў Боль і Сум — не Веру,
Парушыць каб няпраўды неруш,
Што носіць несвядома кожны.
Звястун крывава-палымяны,
Няўсцерпны, вырваўся на волю
І мовіў так: «Народ, даволі!..»
...Але вакол яго — ціхмяна...
І хто жывы?..
                    Хіба — хто церпіць
І хто штодня ад працы ў зморы,
Каго выхоўвалі ў пакоры
Як па загадзе рушыць ЦЭРКВЫ?
Хто?..
        Хто жывы на гэтым свеце? —
Мо ёсць!
            Ды толькі верш няўчуты
І вуснаў родных некрануты
Паспеў адно —
                    як зніч згарэці...
Яго душа дасюль блукае
Зняверaным, змарнелым ценем.
І ўжо няма таго мавення!!!
*«Не пастырь брату»,—*
                    кажа *Каин.*

*1990*

## НА АДРАДЖЭННЕ ЦАРКВЫ МАРЫІ-МАГДАЛІНЫ

Не руш! Мой сон перадсвітальны
Прыдасца светлазорай гліне.
Я не міну паспавядацца
Ў царкве Марыі-Магдаліны.

Гаючы час лагодзіць сэрца
Зліццём на хвілю з праўдай вечнай.
За ўсіх маіх адзінаверцаў
Царква запаліць медзі свечку.

І даравальна-страснай згубы
Апошняе чуццё азорыць.
Зняверанай — прыдасца любасць.
Пазбудзецца няўцешны гора.

Скароная. І —
дай мне сілы!
Знямоглы дух шукае выйсця.
...Жагнае звыкла і імкліва,
Трыкротна бласлаўляе Хрысце...

*1990*

## МАРЫЯ, БУДЗЬ...

Марыя, будзь...
За сценамі — цямрэча...
Дайсці да брамы не паспееш ты.
Спачатку — жар, а холад — ён затым,
Як вусны перахопіць рот старэчы.

Марыя, будзь...
Няма на свеце вечным
Ні праўды шчырай,
ні святой ілжы.
І ўсмоктваюцца белыя вужы
Ў тваё напаўразгорнутыя плечы.

Марыя, будзь...
Самотны жвір пустэчы
На ўсходзе сонца стане залаты.
Няма дарогі ў той спакой. І ты
Не прычакаеш светлае сустрэчы.

Марыя, будзь...
Ты па законе нечым
Пакутніца, ахвяра і суддзя.
І малако атручана ў грудзях.
Ты ім напоіш сына ў гэты вечар.

Марыя, будзь...
Той, хто і б'е, і лечыць.
Дайсці да брамы не паспела ты...
Спакою жвір нязнойдзены астыў...
І сёння па табе пастаўлю свечку,
Укленчу і пакаюся затым.

*1989*

* * *

Я ўжо не тая.
Я не калішняя.
Сум мой — атрутны келіх.
Кветам завялым не вабяць вішні,
Толькі што —
сняцца ў белым.

Я спаняверана.
Зеллем цім'яну
Не загаіць нічога.
У маліцвенні сваім ціхмяным
Спавядаюся Богу.

Словаў апошніх — табе! — напевы
Ска́заў і думак лучных.
О, адкажы мне пяшчотай
ці гневам...
Толькі не будзь бязгучным!

*1990*

## ШЛЯХ

Я тут... Я ёсць... Я з боскім тварам,
Дзе неба злучана з вяршыняй.
Як доўга, спогадна трывала!
І крок Яго — быў крок з вышыняў.

...А выкленкаць не мела сілы.
Павойны шлях змарыў-знясіліў.

Ішла — насустрач — што ёсць моцы,
Няспынна, нечувана, шчасна...
Хай — потым — смерць праз нож ці воцат.
Сто сонцаў! — і настане час мой...

...А выкленкаць не мела сілы:
Як боты, ступакі знасіла.

Прыялі ў конадзень сустрэчы
Паветра, гукі, морак, горы:
Сярод каменнае пустэчы,
Як ружы, расцвіталі зоры.

...А выкленкаць не мела сілы.
Баялася адчуць няміласць.

Дайшла... Я ёсць... Я з боскім тварам.
Сто сонцаў! — і настане час мой...
Як доўга, спогадна трывала:
Здзяйсненне Першага Прычасця.

...А выкленкаць не мела сілы.
Адно — трываласці прасіла.

*1990*

## ХРЫШЧЭННЕ

Як мя́тлушка на свечку, я лячу
На звон, на снег. Апошні панядзелак.
Не выцягнуты з сэрца дзесяць стрэмак,
Ды новую лякаюся адчуць.

Мой дэман чорны дома:
у злабе.
Яго пакіну вольная, як вецер.
Яму не ўбачыць, як зімовым веццем
Шлях да царквы пракладвала сабе.

Як цалiком нявыбітым ішла,
Па зорах кiравалася.
І пострах —
Вярнуцца — быў відушчы, немы посах.
І след мой завіруха замяла.

Быў побач звон. І дзіўнае святло.
На схіле быў віновы панядзелак.
І ўведала:
не будзе новых стрэмак —
Ад іх бароніць боскае крыло.

*1992*

## НЯМКО

Я не сама. Мне мову заняло.
Пазбаўлена ад гэтае нямогі
Выказваць словы.
                    Пасярод дарогі
Бажае йсці мая сястрыца Зло.

І цень яе, нахілены крыху —
О, багавіца! —
                    велічны і гожы.
Абачліва Нядужасць і Варожасць
Нас перастрэнуць з ёй на паўшляху.

Паслужлівых —
                    не кратае жуда,
Не драпае нямога марна шчокі.
Паперадзе адчужанай дарогі
За гарызонтам плешчацца вада.

У ціхі сверб нялюдскай цішыні
Іх надзіць скон,
                    але яшчэ: спачатку
Ілба майго гарачую пячатку
У жвір шчымлівы ўляпаюць яны.

Асуджана?!
                    (ці з варажбы было?) —
Не ведаю якой загуба клятвы.
Сястрыца Зло,
                    ці будзе гэтак кляты
З чыёй спамогай мову заняло?

*1990*

# ГЛОГ

Сярод кустоўя урачыста
Стаіцьме пекны, шчодры глог.
Ці хлопчык,
а ці, можа, Бог
Здаецца мне ў зялёналістым.

Ён сочыць крытна.
Так крыху
Неасцярожна-неспадзеўна,
Дае апошнюю надзею
На спачыванне без граху.

Калі ў зялёным небыцці
Празрыстых кропель чырвань льецца —
Я захлынаюся —
здаецца,
З вышынь павінен
*Хтось* сысці:

Бялюткім воблакам прыўкрас,
Найчысты,
радасны,
стазоры —
І глогу шчодрыя узоры
*Яго* набліжваюць да нас.

*1992*

## РАНІШНІ ШЛЯХ

Цяжэй
за анёла,
ад пуху лягчэй...
Дваісты...
няземны...
празрысты...
слухмяны...
Лазурка
на донні
вільготных вачэй
Чакае
спазнёнае пакаянне.

Ці брат, ці сястра? — запытаю.
Яно
Шапоча таемна
нязнаным
эфірам.
Шчымлівае веданне:
тое мяно
Падобнае спеўнаму ўздыху — «Эсфіры...»

Нярушаны —
пострах,
самота,
адчай.
У той
безутрымнай
абладзе спакою
Адценняў — ніводнага,
апрача
Спаможна-чуйнай
боскай спатолі.

Крок —
            і наблізіцца мне да яе.
Ды аддаляецца плытка-ціхмяна.
Тройчы ў нябёсах імя спамяне.
І да царкоўкі не праміне
Давесці мяне
Уранні
На пакаянне...

*1991*

* * *

Я прыйду яшчэ да рання,
Ты не спі, спадар мой верны.
На залочаным світанні
Я з вярбою — у дзень вербны.

Падыму цябе пруткамі,
Свістам спужанага птаха,—
Каб свянцонымі дарамі
Адагнаць начныя жахі:

Хай не крочаць па святліцы,
Хай не лётаюць да зморы,
Не шапочуць мне:
«Сястрыца,
Будзеш скрушнай і пакорай...»

Прэч вы, пострахі і здані,
Не счакаць адсюль патолі!
...Там далёка — мой каханы,
Ён чакае мяне —
вольнай!

*1992*

## АД ІХ!

Вось перашкоды... Цемрадзь іх мінае.
Святло мінае...
Тут ні ноч, ні дзень.
Адчужаны,
сціхотна-плыткі сцень
Не поўзае. Не крочыць. Не лунае.

І ў гэткім шэрым чэраве — адзіны! —
Мой змушаны знарок
гарота-спас.
Збяру з сабой бліскучае прыўкрас
І рушу ўперад што хапае сілы,

Туды, дзе нечаканая пасоба
Такая ж немагчымая,
як хтось
Жаданы: муж,
чужынец,
госць:
Не разам з імі. І не паасобку.

Неіснаванне — вось яму мяно.
Я слабкая,
як мройлівы угарак.
Ад спадароў,
знамерных іх спадарак
Адзіны шлях:
у шэрань:
згубу:
тло...

*1991*

* * *

Я бяздомная, бы сабака.
Я бяздомная, без душы.
Засталося толькі адплакаць
І апошні раз... саграшыць.

Я бяздомная.
                    Што за дзіва? —
Сотні, тысячы гэткіх ёсць.
Нарадзілася нешчаслівай,
Нежаданаю, нібы госць.

Спаняверанай, бы сабаку,
Замест хлеба —
                    пантофля ў бок...
Бласлаўлёнымі будзьце, шлях мой
І прытулак апошні —
                    парог...

*1990*

* * *

Зімовы жвір аголіць нечы след.
Свавольна вецер за спіной гуляе.
Яшчэ не трызніць пра мяне Той свет,
Адно —
          на скроні вена набрыняе.

Як роздум ад пакуты апалаць?
Узбоч пляцецца цень мой адчужоны...
Шчэ крок —
          ступлю ў паветраны палац.
Ступаю крок я...
          І трапляю ў жорны.

Апавяшчальным воклічам — услед —
Я кіну выклік зглухлым і саслеплым.
І хоць не трызніць пра мяне Той свет —
Мне Гэты свет чужы і непатрэбны.

*1988*

## ХТО?

Ходзіць, ходзіць у ноч сцежкай,
Апануры,
беспрытульны.
І маю гаркоту ўсцешна
Ценем горным прамінуў ён.

Вочы выстыглі ад гора,
Сэрца ў болі патанула.
Ён пранізлівы
і чорны,
Як жыццё,
як лёс — мінулы...

Ходзіць ціха ён, жагнецца
Нечакана, як украўшы.
Чамяра над тварам ўецца...
Ў валасы запусціць пальцы...

Што жадаеш, неспатольны?
На начной халоднай сцежцы
Хочаш бачыць мяне вольнай?
Пакаяльнай,
сціплай,
грэшнай?

Ходзіць з постаццю сагнёнай,
Узіраецца няўклюдна.
Хто —
каханак, вораг —
ён мне?
— Я чакаю Дзень твой Судны...

*1988*

## ГУД

Ноччу, ноччу гуд насцігне
Гарапашнага бадзягу,
Рыкае над вухам тыграм,
Прабяжыць уперад звягам.

Хто спакойны ў час той выйшаў,
Той стаіць апруцянела.
Гуд рагоча,
              кліча,
                    свішча
Па-над стэпам белым-белым.

І шалёным рыкам рэжа
Неспакойную прастору.
Не прытулак, дзе бязмежжа —
Толькі помарак і гора...

Толькі гора... І сумёты...
Толькі снег і гуд няспынны.

...Выйдзем з хаты... Сыпне шротам —
І заб'е мяне і сына...

*1988*

* * *

Мой дом пусты
і не спавіты хмелем.
Вакенца ў сад прыгляднае ледзь-ледзь.
Як сорак дзён душы вагацца ў целе,
Так сорак дзён і розуму гібець.

Навошта клікаць зорану часіну
І назапашваць невымерна хлеб?
З усіх тканін нашу адну тканіну —
Няздымны талісман —
мой чорны крэп.

Пярсцёнак рук найшчыры не запыне,
Не здоўжыцца прынада і палон.
Не лекарцы даверуся —
ангіне,
Што бласлаўляе мой заўчасны скон.

...Цалуе хтось...
Гарацъ, гарацъ румянцы.
І на ілбе лёг срэбраросы ўбор.
...І плача хтось.
...Так плачуць па каханцы.
Але з нябёс глядзіць мой Муж ўсупор.

*1990*

## ПРЫЦІШАНА...

Скуголіць сабакам горла.
Прэч,
　　　　сабака нягодны!
Хай не пазнаюць волі
Мае вусны,
　　　　　　　　мае далоні.

Горай ужо не будзе:
Заб'юць мяне
Ці асудзяць
Сцюдзёныя вочы сябра —
Усё гэта сёння набрыдзь...

Прэч,
Сабака нягодны!
Ні зладу з табой,
　　　　　　　　　　　　ні згоды...

*1988*

## ЗА РАКОЮ

За ракою далёкай,
за даль-акіянам,
Дзе анёлы яшчэ на жулейках іграюць,—
Неспатольны...
спаглядны...
спатайны...
каханы
На абыклым прыстанку мяне прычакае.

За ракою далёкаю —
кволасць аблокаў,
Схоў чужацкіх кладоў на узгорку высокім.
Там жар-птахаў чароды,
дзівосны — іх клёкат.
І чутны,
і ўсё бліжай —
трывожныя крокі.

За ракою; за лесам; за полем; за садам...
Не дапне ні вятрыска,
ні зрок сакаліны...
...Абняможанай госцяй
балеснай прысяду...
Спіць: жаніх-немаўлятка,
салодкі,
нявінны...

*1991*

* * *

І вось той дзень — нішчымны,
Богам кляты,
Калі і келіх — бразь!
І стогн — няўсцерп!
О, зразумей, зірні! — за даляглядам
На сходзе сонца —
мой таёмны герб.

І стома — госць,
і муж мой — госць няісны,
І воля — госць,
і лёс — як госць-сляпак.
І радасці сустрэчы лучна-чыстай
Ім з майго боку не счакацьме знак.

Яны адны... І правяць мной...
Астыла!
Нудзьга і сум — іх нематлівы плён.
У павучэнні, сварках
дом няжылы,
І не мільгне хадыка
паўз вакон.

А ш шчэ ёсць:
змагаюся няўцямна.
Ды не спявацьме больш
як шчыры птах.
Падлога, стол —
у аркушах прывабных...
Зайдзі праз год
і здзьмі з паперы прах.

*1990*

* * *

Маўклівы сон бясконцай летаргіі
Спакойна хвілю з хвіляю злучае.
І ў гэтым неапраўданым маўчанні
Зазвоняць гукі першай літургіі.

...Над берагам лятуць паўднёвым чайкі...

У вочы зацячэ халодны промень
Той зоркі, што апошнімі начамі
Мой небасхіл пакутліва страчае.
Было даўно... І я яе не помню.

...Над берагам лятуць паўднёвым чайкі...

Адсутнасцю астудзіш сквар пачуццяў.
Злучоны будуць помарак з адчаем.
Адзінае, што мы не прычакаем:
Любошчаў прагных...
зненавідна-чуйных...

...Над берагам лятуць паўднёвым чайкі.
Яны тапелец зараней страчаюць...

*1990*

# БЕРАЖНІЦА

Блядáя, аснутая —
ў белых лілеях...
І скончаны шабас,
і ранне ідзе...
Сукрыецца хутка:
вось-вось па калені
Ў вадзе...

Шатан ненавідны —
у ночы. У ночы
Хадзяка нахожы
і скідзень-мярэц.
Мавення яны не пачуюць,
не ўсочаць
І кленц:

«Калі забярэш мяне,
светлы і боскі,
Калі забярэш
ад нямогі і злу,
Прыдбаеш чалядку —
слухмянага воску! —
Адну...»

Лягусенькім пёркам
трапечуцца плечы...
Шляхетнае цела,
стамлёная плоць...
Мо прыме яе,
як аброчную свечку,
Гасподзь...

*1990*

## ЖВІР

О,не ты паўднёвай ноччу
Сон вартуеш хуткаплынны.
Мой русявы, слічны хлопчык,
Спаць нядоўга ў дамавіне
Аднаму табе без панны
З пекнатою непамыснай.

Мой прышлец, пташок каханы,
Крылцы ў пёрках залацістых.

Жвір, як воблака густое,
Ад мяне цябе не ўтоіць.

Горасць штохвіліны нойдзе,
Роспач змучыць невымерна.
О, няземная свабода,
Дзе злучоны немасць, вернасць...

Жвір, як воблака густое,
Ад мяне цябе не ўтоіць.

Послушна няхай акрые
Той пясок, табой абраны.
...Залатыя ў пёрках крылы.
...Мной нанесеныя раны.

Жвір, як воблака густое,
Ад цябе мяне не ўтоіць.

*1990*

## ТРОХСОТЫ

Лягу халоднай і чыстай,
Як парнікоды нарцыс.
Вернікаў будзе трыста.
Трыста ядвабных рыз.

А заміж іх лагодны
Мой — адбалелы ўвесь —
Пякучы, самотны, голы
У змытай крыві надрэз...

Прысакам валяр'яну
Сочыцца фіміям.
Сэрца маё прайграла,
Вернік трохсоты,
Вам...

Погляд Яго патухшы
Птушка крылом кране.
Заплача
па кветцы,
па птушцы.
...Адплакаць забудзе па мне.

*1989*

## ВОБЛАКА

Гэта белы водар ружаў,
Скрыпеню,
            браткоў і бэзу.
Розум зблытаўся,
                        знядужаў,
І сама [illegible] хутка счэзну.

Гэта смак сыты́ і мёду,
Смак такайскага
                        ў крышталі.
Без назову і без роду
Капкай срэбранай растану.

Гэта пена з пены мора,
Мішура,
            раса
                  і вата.
Зачаруе ціхім гворам
Малітоўна-вінаватым.

Гэта ложак той,
                        дзе спацьме
Я б і заўтра ўжо схацела:
Без заношанага плацця
І адчужанага цела.

*1990*

* * *

Тут дзве жоўтых хрызантэмы
Свечак зыркіх. Зазначай:
Крытна ўвогнаная стрэмка
У скрозьдонны мой адчай.
Тут жа снег бязмоўна сцеле
Квет бялюткі па вярбе.

Досыць ятрыць, хопіць зеліць*:
Чорным ценем па ілбе
Кон пазначыла хвароба,
Каб —
адчай,
варожасць,
мла! —
З найкаштоўнае аздобы
Да скончэння прыняла б.

Можа, ёсць на гэтым свеце
Дзесь пакой і кветак пах.
Вызірні:
па гнуткім вецці
Сыпле снег:
мой попел-прах...

*1991*

---

* Адбіраць розум.

* * *

Дзе той,
што сыкаў,—
мой Цар Змяіны?
Сагрэты ўладай,
а не каханнем.
І пуста.
Келіх стаіцьме вінны.
А там, дзе сэрца,—
скразная рана.

*1991*

* * *

Я другадзень яго чакаю марна.
Ў букетніцы пажоўклых кветак сон.
Запознена мігціць яшчэ кавярня:
І гоман, смех і лаянка з вакон.

Зняможана наблізіцца па сходцах
Суцешлівы? слабы? знаменны? —
крок.
І келіх разальe загубны воцат,
Што зацячэ на кінуты парог.

Знікомы крок суцішыцца далёка.
Але: -
як сціхне той астанні гук —
Апошні — мой! —
жахліва-збаўны клёкат
І:
келіх з анямелых грымне рук...

*1992*

## НАПАМІН

Шнары на венах...
Яшчэ пра каханне? —
Досыць!
Прыйдзе інакшы,
якому каханне —
дым.
— Шнары адкуль?
— Кроў пілі, знемагаючы,
восы
Вострымі джаламі
ў апошні мой дзень
залаты...

*1990*

## НЯВЕСТА

Я так хачу, так прагну на змярканні
Надзець вянок,
што з вечаровых ружаў,
Аб тры калючкі мезенец параніць:
На боль забыцца і —
сябе адужаць...

Адзежу — прэч!
Смуродавыя травы
Асвойтана схаваюць абалонку.
Са знічак дождж
гарачы
й зыркі
й прагны —
Як вожаг вочы,
апячэ улонне...

Загана ці сумліў?..
Загуба?..
Змуста?..
Жаданаю прыйшла,
жаданай знікну.
Хрыстоваю нявестай быць,
Ісусе,
Так соладка,
так дзіўна,
так нязвыкла!

*1990*

## ШЛЮБ

Так бязважка,
так бясспрэчна,
Лёгка,
неадумна так
З ночы зорны
авянечнік
Мне на косы
ўздзене грак.

Зверне голаў
да Прачыстай,
Запытаецца мяно.
Жар у хаце,
ложак — выстыг:
Розгляд
скончаны даўно...

І слухмяны,
супакоры
Морак вабны
сам-адзін —
Сярод дзерваў белакорых
Ён: мярэц-
валхвіт-
Мурын —

Зачакаецца — на хвілю —
Час любовы
са ўсіх свят.
Грак суцешліва акрые
Слепкі,
шчасны
мой пагляд.

І жадліва! ашалела!!
Мсціва!!! —
роўна да святла!!!

...Скінуць:
макаўкі —
мой церам,
Авянечнік —
амяла...

*1990*

## КОН

Чакаць яшчэ:
прыдасца час: заранне,
Памклівы рух,
маўклівы кленц
і ўздых.
Вярніся той,
хто быў дагэтуль гнаны,
І падзялі няўмольнасць на дваіх!

Залчэць усходу змучанай лазуркай,
Барвяніцца апасліва,
ледзь-ледзь.
Будзь зненавідным,
крыважэрным туркам,
Захопнікам,— адкуль: *палон ці смерць!*

Будзь з'явішчам,
падобным на Прышэсце;
І прылучы,
і вызвалі — стакроць!
Хай сыціць кроў, паедналая з чэсцяй,
І цверазіць аголеная плоць...

І горасці,
заганнасці — удзячна:
Паспею пакахаць і знелюбіць:
Знябудзецца ўлагоджаны —
і спячым
Як мсціва,
як спакусліва:
ЗАБІЦЬ...

*1990*

## ШТОНОЧЫ...

Штоноч надыходзяць на здзек успаміны.
Лыпаюць зоркі вачыма савінымі.
Падаюць znічкі ў морак бяскрыдлыя.
Рукі ўздоўж цела павіслі ў знямозе.
Мо ўсё прыблюзнілася?.. Падалося?..

Высветліць твар твой шкляное люстэрка.
З вокнаў яго намагаецца сцерці
Абрабаваны цяпельцам вецер.
Завые апуджана дзесь у парозе.
Мо ўсё прыблюзнілася?.. Падалося?..

Сон насылае наўмысна блазноту.
Спрабую яе аднадзіць — употай.
Ды прыйдзе ізноў паляваць самотна.
Сыпне слязамі, бы дождж увосень.
Мо ўсё прыблюзнілася?.. Падалося?..

Зоркі ад крыкаў маіх знячулі.
Сэрца знудзее ў гэткіх пачуццях.
Цела маё ўспаміны атруцяць.
Раскалашмачана зморай валоссе:
Ратунку!
Ратунку душа запросіць.

*1986*

## МОЙ АНЁЛАК

Зноў ён цікуе за мной з падваконня,
Заносіць у кніжку нейкія крыжыкі.
Пытае ціха,
амаль спакойна:
«Ночы пакутныя,—
як жа ты выжывеш?»

У ветлай самоце прымружаны вочы,
Ведае ўсё —
і ўздыхае з аблёгкай.
Чорнымі крылцамі з цемрай лапоча,
Бы абмяркоўвае:
цяжка мне... лёгка...

Ноч адзіноты... ці ён іх скасоўвае? —
Здраднік ці сведка? —
якую ён ролю
У месяцовым святле выконвае?
Боязна спаць і сорамна мроіць...

Чорны анёлак ад цемры пякельнай
На падваконне сеў з кніжкаю гнюснай.
Цела яго набрыняе спакусай.
Люцыпар!
Цалую у белыя вусны...

*1988*

## УЦЁКІ

Ані ўцёкі мае не суняць,
Ані хвілі у дзень той апошні.
На праспекце самотнай пожні
Толькі далягляд — вышыня.

І мінуўся той час нуры,
Мой нахожы намоўнік.
Двойчы
Не адолееш, не сурочыш:
Крыж на шыі,
галеча ў двары.

І зароблены плот ад гасцей,
І зачынены звонку варотцы.
Я сышла ад сябе незваротна,
Не заўважыла:
ноч ці то дзень.

Зрэшты: ўцёкі мае не суняць.
Ні
з нагоды тваёй патрэбы,
Ні
з нагоды пахмурнага неба.
Далягляд мой —
лязо вастрыя.

...Расплываецца чырвань зыходу...

*1993*

## НАЗАД...

*У. Б.*

У горадзе шэрым
з сутоннем у поўдзень
Вецер падыме задушлівы пыл.
Спляжаным паркам
мы стрымана пройдзем
З веданнем:
парк нам, як горад, устыў.

Час-напамін
ціха рушыць услед нам.
Разам сябрына: журбота ды змрок,
З ветахам бледным
з начы апраметнай,
Дзе насцярожаны
позірк і зрок.

Нам бы сюды не вяртацца.
Ніколі!
До! Існуе мноства іншых пакут...
У горадзе шэрым шукацьме нам волі.

...Вершыць наш горад кару і суд...

*1990*

## З'ЯВІШЧА

Госцейкі будуць! Паночак ці цар?
Ў сівым апярэнні слічны шызар!
Дзе бранзалеты, карункі, каснік?
Ён да прыгожых паненак прывык!
Дзе мае слугі, дзе повар, дзе Бог?
Тройка — ў дварышчы! Цар — на парог!
Згубніца, злосніца, тайка,—
дзе ўсе?
Быць мне шчаслівай,
як — не ў бядзе!
З рук на падлогу ляціць лемантар.
Б'ецца у вокны слічны шызар!

*1988*

## НА РАЗВІТАННЕ

Прыйдзе вечар, мой васпане,
Шчэ самотнейшы, чым наша
Несапраўднае каханне,
Наастачу раз'яднаўшы.

І палягуць словы-выдмы,
І паўстануць шэпты-здані,
Незлічоныя агіды
З нас нікога не параняць.

Толькі я яшчэ вярнуся,
Калі лёс таго захоча:
Як зляціць на поўнач бусел
І як дзень сальецца з ноччу...

*1988*

## ГАРМОНІЯ СУПЯРЭЧНАСЦІ

У струпянях і ранах незагойных —
Патрэбны, як паветра, як святло.
На дзіўны кон,
на прывідны спакой мой —
Паэткі неўрадлівае стырно.

Падмена раўназначная.
Бяздушнай
Нялюбасці,
халоднасці стае.
Я не тваёй, каханы, стала служкай;
І ты, адзіны, стаў чужынцам мне.
І з гэтай супярэчнасцю я ў згодзе.
Паэзія ці ты...
Не саступлю...
Патрэбны больш за ўсіх.
На гэтым — годзе!

(Каханне — пройдзе:
Стырно — агню!)

*1990*

## ЧАСОВАЕ ЗНІКНЕННЕ ЛЕТА

Як дзень пры дні
тваё маўчанне мучыць.
Маліны куст засох у сонцапал.
Шаша. Машыны.
Зморана і кучна...
Вакол спантанны вогнедышны шал.

І ў гэтым шале
зніклі рукі блізкіх.
А той задумна-непрыгожы лік
Выгнанніка
праз сненне маё блісне,
І час сысці малітве на язык...

Шаша абапал.
...У жыцці вясковым —
Сушмень, маліны, певень, жвір і бык.
Мой колер скуры
роспачна-васковы.
Такі ты колер бачыць не прывык.

І ў той настрой,
што стойкі і нязменны,
Як сярод лета невыносны сквар,—
Спяшаецца
праднавальнічным ценем —
Што без мяне не зможа! —
мой спадар...

*1990*

## НОЧ

Я твой анёл у цемрадзі пыхлівай —
Сярод фіранак,
ветру і прасцін
Як хораша быць дрогка-палахлівай
На дзіўным свяце
спозненых гасцін!

Вось —
лёгкія, узорныя карункі
Выслізгваюць, як тысячы вужак!
Вось —
танец мітусліва-немых рухаў
І — скрозь;
спаміж —
няшчадны шоргат-жар.
То верны мне,
а то мой помснік злосны,
То роспач-шал,
то змора-крутаверць...

І пацалунак ранішні твой млосны:
Так сіверна цалуе толькі Смерць.

*1992*

* * *

Будзіць статак маю зараніцу
На смарагдавых летніх пракосах.
З чорным ноччу сустрэлася прынцам
З сівізною ў юнацкіх косах.

Ціха промень заб'ецца ў святліцу:
— Што за плямы на шыі? — Восы...
Вось і скончана паланіца.
Хутка-хутка надыдзе восень.

*1990*

# ВЯСНА

О пах ландышаў і бэзу...
Азавецца багавейна
Ў поцемках самога сэрца.
Прыхаваную пяшчоту размяняю на манеты —
Хай каханы здрыганецца
Ад нячутага дагэтуль,
незмярымага пачуцця.
Ландыш — ціш...
Бэз — нецярпенне...

Летуценны свет наш чысты.
Спім —
пакой адкрыты ветру! —
На пялёсткаў белай пене.
Водар пекны.
Думкі ройна.
Матухна мая Марыя,
Кветкамі ўбяру прыгожа
Твой абраз,
набожнік.
Веру —

Што каханага у сэрцы
Толькі смерць і пераможа.

*1990*

* * *

*А. К.*

Таёмны мой... І дождж, і сад, і вецер...
Запознены прыхілак...
Прадчуццё...
Аголенае ў вокны лезе вецце...
Шчэ кропля і —
закончана быццё.

Не сунімай, не кратай плыткіх думак,
Працятых болем; —
болю не ўцячы!
Трывацьме доўга,
напаўняцца сумам,
Нянавісць і любоўства кленучы.

Збянтэжаны... з вільготнымі вачыма;
Адчужаны наўмысна... До маны!
Спыніўся быў балесна.
Ды прад чым жа?
Насужаль, не знайсці твае віны...

А калі так —
жыві ў спакоі чэзлым,
Хадзі з другой,
з якой не будзе бед.
Шлях скончаны.
І курчыцца, і чэзне
Мой — да цябе —
пакутна-позні след.

*1990*

## ЗГАДАЙ...

У блаславёным паху кавы,
Жалобным і трывалым —
вусціш.
Ты памянеш мяне, ласкавы,
Згубіўшы,—
на выгнанне пусціш.

І цень схілёны з падваконня
У прысмерку
на твар твой сонны —
Імгненны, роспачны,
як коннік;
Як зневідзь-госць,—
незапрашоны.

Не споведзі п'янкой чакацьме,
Ні говару,
цалункаў солад.
Спі, чалавек,
ні муж, ні брат мой,
Спі, да мяне адчуўшы голад.

...Ды позна! Позна!
...Адвітанне.
Смак вуснаў —
кава і гаркота...
І для цябе мяне не стане —
Я там,
адкуль няма звароту.

*1990*

## СМЕРЦЬ

Калі загіну тут,
у шэрадыме,
У рэчышчы засохлым
тваіх рук,
Хай здрадніцкі —
з пакутных вуснаў гук
Апошні ўздых
праз горла маё выйме,

Каб я адчуць —
згасаючы! свядома! —
Паспела ўсё,
што ты недаказаў.
І на шляху
хвілiннае назад
Уздых хрыпаты
будзе роўны грому...

І жаль твой хуткі,
і абдымкі рук,
І — вочы на мяне!
І — трапятанне
Яскравей,
чым фізічнае яднанне.
А потым — прыйдуць хай...
І забяруць...

*1991*

* * *

Я чужая сабе незваротна.
Я — чужая. Прынуку цярплю.
Пэўна, скончыцца змораю год мой,
Год, які за бязмоўе люблю.

Але й тое, што будзе — мізэрна:
Чужаніца,
навала, смуга...
Мой — няўмольны, таемны, няверны,
Спасцярожлівых рухаў слугач,—

Можа, сумысля бачыць не хоча
За сабою ніякай віны.
Ты пакутаваў гэтак жа, ойча,
Як і я ад яго маны.

У завершаным — холад абыклы.
Мне за вернасць —
быць у раю.
Ці забудзеш, ці стану прыкрай,—

Не вяртай мне душу маю.

*1990*

# БЕРАГ

Не спяшайся сыходзіць з апошняю хваляй,
Хай трымціць белапенна
ля стомленых ног:
Шчэ анёлы нам песень не адспявалі,
Шчэ вятры не пазначылі вольных дарог.

Не спяшайся — свой поўня суцішыць кірунак.
Ноч працягнецца,
здоўжыцца цемрадзь знарок.
І найпершае веданне:
твой паратунак
Сярод бела-празрыста-цiхмяных аблок.

Не спяшайся, іначай адпудзіш надзею.
Вось гняздоўе,
а далей — закляты парог.
І святы абразок мне на шыю надзене —
Хто ачольваў...
Хто песціў...
Кахаў...
І бярог...

Не спяшайся... Зірнуў раз-ві-таль-на
Ка-ха-ны
І рушыў па хва-лях... па хва-лях...
Па хва-лях...

*1992*

* * *

Паспее шаргатлівая трава
У час пажоўкнуць,
                                    крытна анямець.
Яшчэ вачэй — загадкавая медзь,
І з мармуру лілеяў — галава.

І холад,
                  што наважыўся спярша
Раскрыць абдымкі,
                                    беручы ў палон,
Сам — у абладзе,
                                  дзе і сон, і стогн,
Там, дзе павінна быць мая душа.

І золак — стылы.
                                 Змерзлая вярба.
І выйшаў час кахання любых свят.
І сірата, як мой нявінны брат,
Даткнецца да халоднага ілба.

Прэч! Без дарогі...
                                   Без начы і дня...
Блукай трывожны
                                   у прымерклы час...
Медзь — не агонь.
                                   Агонь даўно пагас.
І белы мармур — галава мая.

*1991*

## ГРУЗІЯ

Дождж твой расстанны —
у лотас вабны,
Кроплямі позніць знікнення час.
Пальмаў заморскіх пыхліва-зграбных,
Кветак нябачаных,
перлаў павабных —
Дорыш-шапочаш
у рэшні час.

Рукі смуглявыя: вены рачулак
Гудуць, абрынаючы берагі.
Знікні!
Мяне дачакаецца чулы,
Ня-блізкі,
ня-родны,
не-дарагі...

*1992*

## ПТУШКА

Ўдовая птушка ўляцела ў святліцу,
Што ёй — пяшчота і згода мая?
Гэтая птушка сіла не баіцца.
Птушка — сястрыца.
І мы з ёй — радня.

Разам паплачам, як абгаворым,
Сцішымся разам, перажывем.
І дачакаемся новага гора.
Ані прасвету,
Ні перамен.

Фортка расчынена — лётай на волі!
...Што, мой каханы, сёння маўчыш?
Рукі твае не задаволены?
Воля — для птушак,
Не для жанчын.

Ўдовую птушку выпушчу з хаты.
Шчасця майго не спазнае яна.
...Раніцай клічу яе вінавата
Аж да паўночы,
Аж давідна...

*1988*

* * *

Іграе ветраны скрыпач
Сярод аблокаў пераборы.
Чуцён найлёгкі, дзіўны плач
І вытанчаны пах чабору.

І на самоце пекны цень
Стрункой, разлапістае хвойкі.
У залачоны сонцам дзень
Хадыка стомлены — з дарогі...

Ён адчыняе мне вакно
І просіць конаўку напіцца.
Папраўдзе ведаю адно:
Яму была калісь сястрыцай.

Не затрымаць.
                    Не заступіць.
Яго дарогі не адолець.
Ён ціха-ціха скажа:
                              «Піць...»
І знікне вольны ў сваёй волі.

*1992*

* * *

Удачы Вам!
Мой камень чорны
Не прынясе шчаслівы дзень:
З далёкай рэчкі мой кудмень:
Свавольнай плыні холад горны;

І грэе погляд, не руку,
Куды пакладзены з надзеяй
На надзвычайную падзею,
Што так заблізка ад граху.

І думкі — прэч!
Яны Вам ледзь
Не данаслі расчараванне.
Пры нашым слодычным расстанні
Ўвушшу звінець
і сэрцу млець.

Але — спакойна!
Вы спярша
Схавайце мой кудмень ад вока,
Бо падаецца:
з ім у змроку
Я маю пэўнасць спарыша...

*1991*

## ЛЕТА. АДПАЧЫНАК

Я там, дзе ты,
дзе гіне прымрак лета,
Дзе кволасць дзерваў выклікае сон,
Дзе скаланецца крытна парасон
Над споглядам дыхтоўнае Альжбэты.

Дзе чэмерна,
дзе жоўкла,
дзе слухмяна
Кладзе паненка ратавальны хрэст:
Ад наскіх найпякнейшую з нявест
Расквеціць сполах на шчаках крамяных...

Разгубленасць, не вартая цябе:
Так ловіш позірк,
так яго чакаеш!
Ты мой!
Але як лёгка прамяняеш
На зморшчынку Альжбэты —
ўсю мяне...

Ідзі! Якая розніца — каму
Адданым быць —
на суткі, на імгненне.
Ты стаў Альжбэты
безупынным ценем.
А я чытаю па начох Камю...

*1991*

* * *

Белапенным воблакам падушак,
Вохнасцю прасцінаў,
забыццём
Раскіданых па падлозе стужак,
Станам чуйным — восеньскім трысцём,

Стогнамі жалобных паланянак,
Трыадзіным сполахам вятроў
Я паклічу.
...І заб'ецца з ранаў,
Заструменіць на загіну кроў.

Вернешся — не здолееш адмовіць!
Вернешся — хай павяртае конь!

«Твой ваяр загінуў...
Выпадкова...
Куляю шалёнаю —
у скронь...»

*1992*

## БЛІЗКАСЦЬ

Мой свет у прадчуванні здрады.
Настуркаў подых так заблізка!
З грудзей сцякае кволай нізкай
Цалункаў крадзеная радасць.
Блізкасць.
Як скуты, госць мілосцяў змарлых.
Не ловіць слёз шалёных пырскі.
Ён на шляху яшчэ няблізкім.
Ён на шляху...
Я прадчувала...

*1990*

## Я — ГЭТА Я

Самота,
не трэба лашчыць
Мае задуменныя вочы.
Цябе ненавіджу горай з таго,
Што ты —
самота жаночая.
Адпускаю на волю ўладна,
Ідзі —
не шукацьму, не клічу.
Будзь назаўсёды вольнай
У маім пекным абліччы.
Пераўтвараюся
Я
У світанак, у птушку, у кветку.
Я — ніхто...
Сярэдняе
Паміж вечнасцю і кабетай.
Вусны
свае расціскаю
У пацалунак для сонца.
Я —
поле вясновае,
зімовая гронка.
З гэтага часу сцішаная.
Салодкая... горкая...
Не такая, як іншыя.
Ні самоты,
ні болю.
Адпускаю каханне
На волю.
Даволі...

*1988*

## ПЕРШЫ ДОЖДЖ

Неба келіх недапіты
Ў Сож... У Сож струменіць дождж.
Да краёў вадой налітыя
Кубкі шлюбныя званоў.

Нам гучыць той гімн нястомны...
Местачковых вербаў плач...
І паднебны
(як застольны)
Трубіць песні птах-сурнач...

Прашапчы мне слова, верны,
Падмані бязвольна: «так»...
Тыдзень толькі свята вербнае,
Дзе саколіць кожны птах.

Нездарма пайшоў спрачацца
Дождж з размытаю зямлёй.
Б'юся кірляю адчайнаю
Аб магільны камень твой...

*1987*

## КАЛЯДОЙ...

Ходзіць ціха заблукалы
    на маім падворку вецер,
Ходзіць ціха, безнадзейна,
    грукаецца ў дзверы.
Там не быць табе, васпане,
    запрашоным трэцім,—
Насупроць мяне сеў княжа
    у намітцы шэрай.
Тайна-глуха рыпнуць дошкі
    ў цішыні сцярожкай.
Напалохана ліхтарык
    замігціць... пагасне...
Цень настырлівы скіруе
    д'яблавыя рожкі...
Княжа велічна прыўстане...
    Шась! — і клямкай бразне.
У разгубленасці прыкрай
    азірнуся тройчы,
Запалю рашуча свечы
    ля самога люстра.
І ў цямрэчу нахілюся:
    глянуць вочы ў вочы...
Плакаў вецер,
    клямкай бразгаў,
        і насупраць — пуста...

*1989*

## ЗОРКА МАЯ

Апоўначы, як вёска заціхне нема,
Узвые на ўзлессі шэрых ваўкоў гайня —
Стогнам-глыжом шпурляюць
у водцень неба,
Дзе толькі што
запалілася зорка мая.

З комінаў дым узнясецца, як белы вершнік,
Борсацца ўверсе будзе аж давідна.
Застыгне ў калюжыне неба паныра-шэрай
Жарынка лёсу бязведлівая адна.

На ўзгорку зманліва старыя клады паснулі.
Долюхны нечае крыж распасцёрты знямеў.
Зорка уверсе дрыжыць
палахліва-няўтульна,
Быццам продкава дзіда
цэліцца
прама ў яе.

*1986*

## ХРАМ

Лес ачысціць ад думаў хіжых,
Супакоіць сярод імхоў;
На ваўчыных кустох наніжа
Ягады маіх грахоў.
Зрокам дзівіцца лес відушчым,
Бо мяне да братоў-звяроў
Далучаюць райскія пушчы
Між гадзюкаю і арлом.
Кожны тут пад боскім наглядам.

...Толькі ў цэркваў ёсць свой прысуд.
Йдуць набожныя міма сяляне.

Я ж Тваё блаславенне нясу...

*1987*

# ШЛЯХ

Рукі складзе і пакліча на золку.
Праз асаку і халодную плынь...
Босыя ногі...
Пад хвойкі — іголкі...
Птушкай начною ў паветры мне плыць?

Шлях ці таропкі?
Ды кліча няспынна
Той, хто не можа ні хвілі, ні дня.
Шлях мой сцярожкі.
Кустоў павучынне...
Рэчкі вірлівай ні краю, ні дна...

Волкі туман перахопіць, сустрэне.
Поўня асвеціць няўпэўнены крок.
Вылятуць шэрыя дрогкія цені,
Мокры прыпол
яны цягнуць убок...

Як не згубіцца? Як думаць цвяроза?
Голаў — у неба:
лядзяная сінь.
Шлях мой высочвае
нема, высозна
Той, хто маліўся і клікаў-прасіў.

*1992*

## МАЕ НЕПАТРЭБНАЕ СЛОВА

Мой голас самотны і ціхі.
Мой голас — самотны гвор.
Шчэ гучна спявацьме хор,
Але хваласпеў той сціхне.

Няясная ў гэткім гуле.
Не згуба яшчэ, не палон.
Прадбачу сірочы скон
Апошняй песні — няўчулай.

І словамі вечна старымі
Шчэ буду гукаць здалёк.
Суродзіч, прыцішь свой крок,
Што ў небыць вядзе ў нястрыме.

Спыніся... Паслухай... Ледзьве
Агучаны ціхі гвор.
Спяю табе — насупор,—
Калі не паспею памерці.

*1990*

## ВОСЕНЬ

Як рэшні дзень —
                    пачнецца мая восень.
У чырвані й лімонавым лісці.
Той час — калі наблізіцца, прыйсці —
Мяне ў гасціны познія запросіць.

І буду ведаць заканчэнне свят,
Чужых людзей няпрошаную чуласць.
І больш ніхто не ўбачыць,
                    не пачуе
Мой верш, радок,
                    і голас, і пагляд...

І сцішыцца даспелы марна плод.
І кола ў кола — звершыцца заўсёднасць.
Надыдзе восень —
                    рана ці запозна? —
І так пачнецца мой астанні год.

*1992*

## Я — ЭМІГРАНТКА

Вясною ў прысадзе пасею стакроткі.
Пакіну цябе я не сёння, дальбог.
Хапаю паветра раскрытым ротам,
Уранні скокнуўшы на парог...

Нябачная — ў вусціш тваю знікаю;
Няўчутую — цемра прымае і хлуд.
Куды знікаю —
там, пэўна, рай мой.
Але прытулак пакуль шчэ тут.

Рукам дам волю панылa-белым —
Даткнуцца пальцы рэчаў стакроць.
Каго пакіну?
І скуль я бегма?
Яшчэ б хвілінку расстання хоць!

З тугой, няйначай, знікаю ў свеце
Чужым,
і вырак — мой боль і жах.
Пакуль што жыцьму.
А там асвенціць
З Айчыны беглы духоўнік
прах.

Вясною ў садзе цвітуць стакроткі
Ў расе пякучай праз кожны крок.
«Шлях дужа доўгі,
спамін кароткі»,—
З аблёгкай выдыхнецца здалёк.

*1989*

## НОВЫ ГОД

І закончаны год перастурны,
Не расквечаны ўверсе салют.
У паўдзён наступае астуда
На цвярозую голаў маю.

І загадкавы колер у шклянках
Не прыблюзніцца прывідным сном,
Як тваё адвітанне на ранку,
Як няспешлівы снег за вакном.

У далёкім мінулым, няпомным,
У прадаўнім —
заўчорашнім дні:
І яднанне,
і хцівасць,
і войны,
І гірляндаў,
і свечак агні...

Азірнецца —
хіба ад пагоні
Зледзянелага ветру.
І ўздых...
Застанецца прыдушаным стогнам
У вачах шэрань-шэра маіх...

*1993*

## ЗІМА. ПАЛЁТ

Здымаю белую пальчатку...
І мокры снег, і хісткі лёд...
Там будзе ціша напачатку,
Яшчэ — завершанасць — палёт:

Сярод мігценняў бледнаталых,
Сярод паднебна-немых крыг,
Дзе голас здасца нежаданым
І нечаканым, быццам крык.

Дзе не гучыць, а толькі льецца
Нябачны свету акіян.
У невядомасці здаецца:
Няма мяне,
                    я — нічыя...

...Таропка выбяжыць насустрэчу
Каго чакала мноства год.
Бязважка:
                    хвіля ў хвілю — вечнасць! —
Пальчатка падае на лёд.

*1993*

## СЯГОННЯ

Якое немінучае сягоння
На сходзе надзвычайна-скрушных дзён!
Уведаю —
здакучлівы ўспамін
Адданасці маёй ўжо не нойдзе.

І аніхто ў звароце не запыне.
Наканаваным не бывае хмель.
І тыя дні —
няпомныя ўсуцэль!
І з імі — зман,
і страх, і мроі — з імі!

І той, хто быў так прывідна вялікі,
Прачнецца
і адчуе гэты скон:
І адхінецца ад люстэрка ён:
Бяссільны,
некаханы і бязлікі.

*1993*

* * *

І гэта колацце ў грудзях,
І гэты кашаль без прасвету:
Так скончыць шлях,
адолець страх...
Не быць на здымках і партрэтах...

І калі ўспомняць,— «не было».
Сышло — «спявала і гучала».
І хмель-вішнёвае віно
Каму пад вечар налівала,

Той будзе ведаць прыканцы,
Зацэпліць медную лампадку...
...Хай блаславёны *пасланцы* —
Дарогай вольнаю
і гладкай...

*1992*

## НА КУХНІ

На кухні белай, дзе адчай,
    дзе свечак хісткія маланкі,
Я буду блазнавата-п'янай
    і засмучонай, як адчай.
А ты прыйдзі і абудзі,
    і абнадзей, калі не веру
Ні жаўранку, ні злыдню-зверу,
    ні бегу плыткаму гадзін.
Святліцу толькі прыбяру,
    дзе захінуты ўсе фіранкі.
Ужо падрыхтаваны храм мой:
    алей радкоў і словаў — з рук
Цячэ. І хісткія струмкі
    адухатворанай пяшчоты
Збяруць адчай, маю блазноту,
    трымценне прагнае рукі...

Засведчыць думак рад бязладны.
Бязлітасна. Непадуладна.
І кроплі — перлы — вінаграду —
Крыштальнага —
                з вачэй —
                        як градам...

*1993*

* * *

Ціха святліцу сваю адчыняеш. Звычайна.
Дыхаеш лёгкім павевам ружаў вячэрніх.
Тут для цябе сяброўкі —
белыя чайкі.
Райскі нектар —
такая твая вячэра.

І аніхто не чыніць табе прымусу
Ў гэтай ідыліі поўнай і пэўнай, няўпыннай.
Ты ні абуза сабе, ні бяда, ні спакуса.
Ты адзінотніца без
багадайнага сына...

Як прызвычаіцца дзён аднастайнага кола
Не пазбягаць, сцерагчыся —
прымаць як належыць?
Ведама — край твой далёка,
бязмоўны і голы,
І беднаваты на готыку родныя вежы.

Ціха святліцу сваю адчыняеш. Абыкла.
Дыхаеш лёгкім павевам ружаў вячэрніх.
Жыць на чужыне ты проста даўно прывыкла.

Я — дзе бязмоўна і гола,
Дзе хлеб і вада —
вячэра...

*1993*

* * *

I што [redacted] хацела сказаць,—
    Становіцца болей не важным.
Абы зелянелі шаты
    Нявечназялёных дрэў,
I сноўдаў па вулках дзень,
    I працаваў мурашнік
Істот, што падобныя ўлетку
    На ветлых, вясёлых людзей.
I гэтак — ледзь не Еўропа —
    Мая Айчына шчыруе...
Счужэлая нібы крыху,
    Спагадная спакваля.
Хай доўжыцца ейны крок,
    Хай Бог той крок накіруе
I дасць ёй відушчага, мудрага,
    На ўсе часы караля.

*1992*

## УЦЯКАЧКА

У дождж так нечакана пахне морам.
А там: інжыр, марэлі, кавуны...
Не ведаю: ты —
                    муж ці немы вораг
І лёс які прадбачаць мае сны?

Пад раніцу, пад самае зіхценне,
Пад шалахценне лёгкага дажджу
Апасліва віжуюць святлацені
Там, дзе ад думак хворая ляжу...

І безнадзейна шчодрае жаданне —
У іншасвет-салёную-ваду.
Як Балтыі няскончаная дайна,
Далёкая, забытая —
                         прыйду

Туды,
        дзе так жадана пахне морам,
Інжыр, марэлі —
                        толькі для мяне.
І муж як верны, як адданы вораг,
Сваю ўцякачку злосна пракляне.

*1992*

## ЯНА ЧАКАЕ...

Я ведаю: яна ў блакітным.
Яна стамілася чакаць.
З яе спакоем першабытным
Не ладзіць мне,
не сябраваць.

А толькі слухаць.
У залоце
Стаіць апошняй волат-клён.
Ён так прынаджвае,
лагодзіць,
Так лечыць ад самоты ён.

Дзіця ідзе...
У шалахценні
Апалых лісцяў —
боскі дар.
Блакітная!
Яшчэ імгненне!!! —
Я падару табе
свой твар...

А хто яна?..
Ці мае розум?..
Без назвы...
Міжпланетны згук.
Маўчыць...
Не кліча і не грозіць...

Чакае знаку: змарлых рук.

*1990*

# КАРА́ЛІ

Ракавінкі, зерне... О, каралі,
Здольныя яшчэ дапамагці!
Варта вам на міг які сысці —
І загіне тое, што яднালі...

Дзе на нітцы пацеркі самлелі
Ад гарончкі цела, ад зліцця,—
Сонца Дух пазначыў крэйдай белай
След пакуты ў кола небыцця.

Не пазбавіць светлай рысы мора,
Не ўратуе шыю сонцапал.
Частку цела пацеркам аддам,
Як жанчына, што хавае сорам.

...Хай яшчэ не час, яшчэ зарана!
Хтось прабачыць, грэшную, мяне,
Што калісьці захлыска спаўе
Нечакана,
прагна,
апантана...

Пачакайце... ракавінкі... зерне...
Здольныя вы мне дапамагці —
Бо вяроўцы месца не знайсці,
Покуль вы злучоны ніткай вернай.

*1990*

## МОЙ ГОД

Я вольнаадпушчаніца,
што заложна
Чакае апеўны,
нялюбы год.
Зыркі пурпур —
мой зацяты рот.
Месяц гарыць —
скрозь, у сэрца —
вожаг.

Шчэ прычакаю Яго да світання,
Літар залочаных перачытаю...

Я вольнаадпушчаніца,
што царуе
На пляцы падушкі,
на троне слёз.
Нядужы, няпомны трыццаты хрост:
Усёвідушчы,— табе падару я.

Толькі нікому... нікому... нікому
Не аддаю сваю горкую стому...

Я вольнаадпушчаніца,
што ў пяшчоце
Погляд кіруе да неба праз столь.
О скатаваны, маўклівы боль —
Спрат неахоўны —
мой лоб хрышчоны...

Шчэ прычакаю Яго да світання.
Літары Бібліі перачытаю...

Я — вольна-адпушча-ніца...
Чакаю сталення:
Трыццаць...
Тры...
Поўнач...
Згінаю калені.

*1991*

## РАЗГУБЛЕНА...

Мне цяжка.
Напэўна, я хутка памру.
Прад тым карануюся вольным:
асанна!
Гасцёўня. Здакучлівых сведак збяру
Прысутнасцю.
Потым яшчэ — пахаваннем...

У доме спакой,
і нямота,
і гнюс...
На кухні не кава —
рэклама з Ірана...
Каханы мой, слічны мой пан-беларус
З паставаю Яна
і мовай Івана...

Слізгаюць паненкі срабрыстых выяў —
Не кожнай патрапіць у шэраг абраных.
Як попел у коміне выстылым ззяў
Святлом барановым,
шкілетам барана...

Але — гэта здані з хваробы і сноў.
Я буду ў іх коле
ці позна, ці рана!
На лейкацыты збяднелая кроў
Палае,
і грозіць,
і моліць:
асанна!

*1990*

## НА САМОЦЕ

На самоце — надзейна,
на самоце — уздых
Горлам,
сэрцам:
халодны, бязмоўны,
Аж пакуль не ачах,
у вачах не аціх —
Ў зрэнкі-крыгі
зацёк усё роўна...

На самоце — адчай,
на самоце — мяжа.
Перад Храмам
складу цяпельца.
Толькі зліжа знамерна
вагню іржа
У жалеза закутае сэрца,

У жалеза «не ведаць»,
адценне «не быць»,
У адзенне «не кратайце толькі»...
Не знайсці астравы
правялебнай травы,
Дзе святыя
загойваюць болькі.

Можа, нехта
прачыніць той Храм уначы
І жахнецца. І сэрцу на ўцеху
Дождж гукне!
Толькі дождж
валачыць
Будзе даўкае, позняе рэха.

А счарнелы цвінтар —
як належны працяг.
Для халоднай, бязмоўнай
і грэшнай.
І надыдзе самота.
Самота быцця.
І зачыніць за вязніцай вежы.

*1993*

## ХВАРОБА

Мой праўялебны месяц май,
Душы жадлівае прытулак
Сярод вільготна-свежых вулак
І птушша звонка-спеўных грай.

Зусім нядоўга —
трыццаць дзён
Было адлічана збавенню.
Як нараджала ўлонне ценю
Наследак — пахавальны звон!

Але дарма! Ён знік у змрок.
І май рачыў: «Жывою станься!»
Сляпучай кропляй затрымаўся,
Не сцёк —
жыцця трыццаты рок.

Маёвы дзень... вялебны май...
Жыцця жадлівае прытулак
Вось тут —
спаміж вільготных вулак
І птушша пераможных грай.

*1993*

* * *

*А. С.*

Цябе няма і там, дзе быць належыць,
Дзе *свята месца*, дзе чырвоны кут.
Нянаскае, далёкае ўзбярэжжа
Чамусьці не бароніць ад пакут.

Слабы твой крок, пахіленыя плечы,
І гнаны цень —
начны сціхотны звер.
І больш не надзіць,
больш душу не лечыць
Паўднёвы прысак —
хвалі і імбер...

Агнёвы дзень — не вартае збавенне
Ад думак цяжкіх аднастайных дніп.
Баюся:
ля тваіх паўнюткіх венаў
Высочвае, кружляе цень адзін...

*1993*

# З КІТАЮ

Мой жаўцявы наведнік,
раскосыя вочы —
Найблізюткі назольнік,
зацьменне між дню —
Я найменне тваё
ад ахоўнікаў ночы:
На згіноту? на шчасце? —
сваё — бараню...

Зашлы! прахадзень! безвач —
сляпую часіну
Стрэчай бавіў; ȧдношта —
нявольнікам стаў
Хвілі дрогка-лянівай,
калі я загіну
Ля пакутных айцоўскіх
каленаў Хрыста:

Аквяціш маю голаў
у колеры краю
Скуль ты родам, наведнік...
Як Будда засне —
Ты мяне правядзеш
па мястэчках Кітаю.
І знясіліцца гнеў...
Можа, й нас абміне...

*1993*

## ЖАХ

Хіба настаў апошні час,
Калі:
і холадам, і ноччу
Чырвоны, брыдкі цень —
ураз —
Шалёным поглядам сурочыць.

І наймя шчыры даўгаспеў:
«Бог-Божа-Божанька!» —
літанне.
А хтось шаптаў на мове дрэў,
Што толькі ўцёкі —
ратаванне;

Дзе попел-жвір,
маіх дзе ног
Не бачна кроку
ані знаку,
Дзе на скрыжоўванні дарог
Мой кон —
сустрэцца з небаракам.

Такі, як я; ён —
анідзе.
Ён на самоце,
без прытулку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

А ён быў
брыдкі, слізкі цень.
І прычакаў мяне ў завулку.

*1993*

## БЫВАЙ!

І будзе дзень,
калі расстанне — бліжай.
І будзе дождж бясконцы —
так хачу!
«Дзе я знайду Вас?» —
«Пэўна, не ў Парыжы».
І у прытулак ночы адлячу.

За намі — Менск, расстанная сталіца.
Вачэй здзіўленне
і трымценне вей.
І вершаў невычэрпная крыніца,
Схаваная ў душы маёй глыбей.

Я ведаю, што мой учынак —
грэшны.
Прызначана адно: хутчэй ляцець,
І тое, што: адчайна, непазбежна
Мяне няма.
Застаўся толькі цень.

*1993*

* * *

Адзіноты камень сірочы,
І жыцця майго вечны прыкутак.
Вывучаюць мову пакутаў
Мае вусны —
дасхочу.

Як праясніцца дзень праменнем
У пустым і засохлым садзе,
Можа, прыйдзе, ў парозе сядзе
І падкажа сваё найменне...

Можа, знікне, як чарадовы,
Можа, ста́нецца —
застане́цца...
І засохлае дрэў суквецце
Забуяе нанова...

Здыме камень цяжкі сірочы
І падорыць свае пакрасы.
Аж пакуль напярэдадні Спасу
Іншым шляхам пакрочыць...

*1993*

* * *

Прабачай мяне, сінявокі,
Мой няўдалы, слабы, мой боль.
Я не ведала, як расцвітаюць шчокі
Ад усмешкі маёй слабой.

Ты глядзеў, і здалося — сонца
Размалёўвае твой пагляд.
Сакавітасць бурштыну ў гронцы
Вуснаў —
                    восеньскі вінаград.

Не распальвай свае пяшчоты,
Маіх рук, жадзён, не чапай.
Хай нянавідны, хай гаротны,
Адквітнеў мой дзявочы май.

Ды не думала, што магчыма
З ночы ў ноч пад вакном стаяць,
І чакаць, і чакаць прычыны
Кожны пальчык мой цалаваць.

...І сышоў ад мяне мой гнаны
І пакутна-маўклівы мой.

І сышоў ён залізваць раны
У чашчобе вуліц глухой.

*1993*

## ЗВЕР

Мой сон не ёсць спачын.
І сын
Адчуе дотык грозьбы.
Абрыс знаёмы —
напамін.
Раса начная —
слёзы.

Мой звер не верыць напавер,
Ён п'е віно густое.
Мне сон сустрэць —
адзін намер:
Хто п'е —
канае, стогне.

Ён прагне толькі раз у год
І расчыняе дзверы
На мой адчайны
надыход.
І ў той ратунак —
верыць!

Мой сон не ёсць спачын.
І сын
Пралье ў падушку слёзы.
І, пэўна, толькі муж адзін
Не ведае пагрозы.

*1993*

* * *

*Маім сябрам*

Мы доўга йшлі,
і хат чужых прытулкі,
Гады сталення і кахання —
ўраз
Забытыя...
Там не пазнаюць нас,
Дзе мы былі —
на старадаўніх вулках.

Як ні шукай —
загінулі сляды
Сэнсоўнасці юначага пытання.
І будучыня больш непрадказальнай
Здаецца нам.
Насталі халады...

Ды, можа, так:
пад шэранню лісты
Яшчэ счакаюць
будучага часу
І мы таксама атрымаем назву,
Адно са словаў будзе: «залаты...»

Ці год? Ці дзень?
А можа, проста мы
Не ведаем
і не паспеем зведаць...
Бо толькі там,
дзе крыж і пахне меддзю,
Для нас адказ.
Бяссільны і нямы.

*1993*

## ДА ВОЛІ...

Ідзі
праз шыпшыны крывавыя кветкі,
Нястомны і смелы хадак!
Пякучыя драпіны —
вольнасці знак.
Ідзі праз крывавыя кветкі...

Апасліва цені чакаюць хады,
Счапляюць раздзертае голле.
І ведае той, хто трапляе сюды,
Што шлях толькі ўперад —
да волі.

Ідзі праз шыпшыны крывавыя кветкі,
Нястомны і смелы хадак!
Пякучыя драпіны —
вольнасці знак.
Ідзі праз крывавыя кветкі...

І подыхаў дзіўных вакол насланнё
Ад палкіх, гарачых суквеццяў.
Калі спапяляць яны сэрца твае,—
Раскідаюць попел па свеце.

Ідзі праз шыпшыны крывавыя кветкі,
Нястомны і смелы хадак!
Пякучыя драпіны —
вольнасці знак.
Ідзі праз крывавыя кветкі...

І птушка пакоры,
і птушка бяды
Няўмольна расправілі крылы,

Каб тут, на самоце бяссільнай хады,
Выбранец апошні загінуў.

Ідзі праз шыпшыны крывавыя кветкі,
Нястомны і смелы хадак!
Мы рушылі ўперад —
то вольнасці знак.
Ідзі праз крывавыя кветкі...

*1993*

* * *

Калі я знямею ў ложку,
падыдуць да мяне з малітоўнікам
Анёлы,
жыццяў чужых заваёўнікі,
Ціха,
прагна, сцярожка...
Рукі — на голаў...
збяруцца на сходзе,
распытаюцца аб учынках маіх
Анёлы,
абмяркуюць вядомае ўслых
І ў шлях
апошні праводзяць.
Святая... скажуць рашуча,
кахала... але кахання
Не ведала.
Пісала... але не сказала
Галоўнага.
Шукала... але не прыйшла
Да сутнасці.
Клікала... але не павяла
Да канца.
І скуль ім ведаць, небаракам,
што я —
не паспела...

*1987*

## *З Мікалая Гумілёва*

### ГЭТА БЫЛО НЕАДНОЙЧЫ

Гэта было неаднойчы, як не апошнім разам
У нашай змозе, глухой і супорлівай:
Як заўсёды, ты ад мяне адраклася,
Заўтра, ведаю, вернешся пакорлівай.

Але як ні дзівіся, варажнечы сябрук,
Вораг мой, ахоплены цёмным каханнем,
Толькі стогны любові будуць стогнамі мук,
Пацалункі — крывёй на ранах.

## СУМЛІЎ

Адзін я ў вечаровы, ціхі час,
Пра вас я буду думаць, так! — пра вас.

Узяўшы кнігу, ўбачу там: «яна»,
Душа ізноў сп'янее без віна.

Як кінусь на рыпучы свой ляжак,
Пячэ падушка... мне чакацьме знак...

Крадком, цішком [redacted] стану ля вакна,
Зірну: там ноч, вакол над лугам — мла.

Вось там, ля кветнікоў, сказалі «так»,
О, гэта «так» — заўсёдны боскі знак.

Ды раптам усвядомлю у адказ:
Няма і не было, чуллівай, вас.

Што ваша «так»? трымценне ля сасны,
Цалунак ваш — бязглуздзіца вясны.

# ЯНА

Жанчыну ведаю: маўклівасць,
Стамленне горкае ад слоў
Жыве ў патайных пералівах
Яе пашыраных зрачкоў.

Душа адкрытая жадліва
Адно — ў мядзяны верша спеў,
Перад жыццём стаіць гуллівым
Высакадумнай з усіх дзеў.

Нячутны, нетаропкі, вабны,
Так дзіўна плыткі яе крок,
І нельга зваць яе прывабнай,
Але яе мне зычыў Бог.

Калі у празе я свавольнай
І годны, смелы — я іду
Вучыцца насалодзе болю
Праз млосць, знямогу і сыту.

І светлая ў час засляпення,
Маланкі сціснуўшы ў руку,
І сны яе як рысацені
На райскім вогненным пяску.

## ЛЯ КОМІНА

Наплывалі цені... Комін дагараў.
Рукі на грудзях, ён адзін стаяў,

Нерухомы погляд не хавае тлум,
І вядзе гаворку пра гаркоту-сум:

«Земляў невядомых [redacted] прабраўся ўглыб,
Восемдзесят дзён драмадэры йшлі;

Гораў ланцугі, лес, [redacted] то й калі
У далечы дзіўнай гарады былі,

Неаднойчы з іх у цішы начной
Далятаў у лагер невядомы вой.

Мы ссякалі лес, ладзілі ірвы,
Ўвечары ля нас рыкалі ільвы,

Баязліўцаў там не было між нас.
Ім лучалі ў цемя і траплялі ўраз.

Вызваліў стары храм [redacted] з-пад пяску,
Імем назвалі там маім раку,

У вазёрным краі велькіх пяць плямён
Слухаліся мне, бо быў мой закон.

Ды цяпер слабы, як ва ўладзе сну,
Хворую душу зазнаваць адну;

Зведаў, зведаў я, што такое жах,
Пахаваны тут у чатырох сцянах;

Нават зброі бляск, нават хвалі гвор
Не парвуць ланцуг, лёсу насупор...»

Стоіўшы ў вачах пераможна зло,
У куце жанчына слухала яго.

## ТУРКЕСТАНСКІЯ ГЕНЕРАЛЫ

Пад гвор няўцямны, ў ардэнах,
Скрозь бляск і мірны гоман балю
Так дзіўна бачыць пры сцянах
Старых высокіх генералаў.

І ветлы голас, і пагляд,
І броваў сівыя выгібы
Ці выкажуць ужо — наўрад —
Што выказаць яны маглі б нам.

Здаецца, што ў віхуры дзён,
Сярод саноўнікаў і дэндзі
Не іхніх хвацкіх спіс імён
Належыць велічнай легендзе.

Яны забыліся на сум,
Уночы воклічы: «Да зброі!»,
І драмадэраў на пяску,
І саланцы у сонцы мройным;

Пыл невядомае зямлі,
Пагібель роты нешчаслівай,
І Уч-Кудук, і Кіндэрлі,
І рускі сцяг над белай Хівай.

Забылі? Не! Бо кожны час
Праз нейкі выпадак старанны
Вачэй туманіць роўны бляск
Спамінам пра былыя раны.

«Што з вамі?» — «Так, нага баліць».
— «Падагра?» — «Не, скразная рана».

Адразу сэрца зашчыміць
Нудой па сонцы Туркестана.

І мне сказалі, што ніхто
Сярод старых тых ветэранаў,
Між дзідаў Грэза і Ватто,
Фатэляў, у ядваб прыбраных,

Не прыхавае той ляжак,
Які служыў у вандраваннях,
Каб сэрца вечна хваляваць
Спамінамі праз ноч да рання.

## СУЧАСНАСЦЬ

Я закрыў «Іліяду» і сеў ля вакна.
А на вуснах трапеча апошняе слова.
Недзе зырка свяціла ліхтарня адна,
І маруднарухавы быў цень вартавога.

Свой пытлівы пагляд досыць часта кідаў,
І паглядам адказвалі смела да зморы.
У канторах рачных Адысеяў страчаў,
У шынках — Агамемнанаў спáміж маркёраў.

У далёкай Сібіры, дзе замеці плач,
Застываюць у срэбных ільдах мастадонты,
І варушыць нуда снегу зморany плашч,
І крывёю запалены — іх — гарызонты.

У маркоце ад кнігі, нудзе ад маны,
Пэўна, мне і зусім не патрэбна героя...
Вось чулліва ідуць па алеі яны,
Гімназіст з гімназісткай, як Дафніс і Хлоя.

## CREDO

Адкуль даведацца мне можна,
Скуль я прыйшоў, іду куды...
Адпалыскаю пераможна,
Дзе слепкія цвітуць сады.

Ці прыгажосць занепакоіць,
Пяшчота замаркоціць руж,
Ці просіць-моліць даць спакою
Душа стамлёная. Не руш! —

Бо я жыву, як скокі ценяў
Данінай смерці майму дню,
Я поўны таямніц імгненняў,
Чырвоным келіхам агню.

Даецца ўсё — багаты выбар...
І цень начы, і дзень, і свет,
Ўрачыстасць велічы ў эфіры
Мігцення вабнага планет.

І хворых думак будзе меней,
Ад ведаў: скуль, куды іду;
Дзвюх зорак ведаю зіхценне,
Што лашчылі адна адну.

Я ведаю, звінелі спевы,
Дзе прыгажосць займае трон,
Калі, як мроі, з белых дрэваў
Сплятаді кветкі светлы сон.

І сэрцам палкім ў цуд я веру
І зведаў вышні небасхіл,

Свой сон пакіну я бязмерны;
Дзе б я ні жыў і дзе б ні быў.

Жывы ўвесь час, заўжды магутны,
Ўлюбёны ў пекнасці прывід.
Вясёлкай выгукнуць сугучча
Над царствам пусткі і агід.

## АПАВЯДАННЕ ДЗЯЎЧЫНЫ

Ў сутоння час гараць агні...
Мы гэты час з усіх прыкмецім,
Гаспадзь, сыдзі, бо моляць дзеці,
І злыя прымхі адгані!

Адпачывала ля варот
Пад ценем чуйным мілай хвойкі,
І палымнеў быў нада мною
Вышыняў снежны карагод.

І ў гэты час з далёкіх гор
Сышоў на ніз хадыка дзіўны.
Ён утаропіўся прызыўна,
Паглядам палкім насупор.

І пеў паглядны чараўнік:
«Пайшлі са мною на вышыні,
Там гроты з мармуру укрыюць
Тых, хто, агнём вянчаны, знік.

Іх вочы, як вада ракі,
Яны лягчэй за пах цім'яну,
І духі неба так слухмяны
Судакрананням іх рукі.

Мы ўвойдзем ў іх таемны дом
Пры гуках светлага напеву,
І там ты будзеш каралевай,
Як я магутным каралём.

Хай невыносны цемры жах
І палахлівы гуд расколін,

Ды над усім царуе воля,
Лазурнай прахалоды пах».

І не было дасюль маны
У песні, што мяне гукала
І ў кветкі шчасця прыбірала
Жаданняў прывідныя сны.

Быў поўны цноты мой пагляд
І сэрца, што чакала ветла,
Ці ж іх завабіць ціхасветлы
Гаворкі чуйна-спеўны рад.

Хадыка дзіўны адышоў,
Загас у сонечным зіхценні,
Але яго пакутным ценем
Быў плач, паўтораны наноў.

Ў сутоння час гарэць агні...
Мы гэты час з усіх прыкмецім.
Гасподзь, сыдзі, бо моляць дзеці,
І злыя чары адгані.

## САМАЗАБОЙСТВА

Усміхнулася і ўздыхнула,
Здагадалася пра спакой.
І ў апошні раз зірнула
На шпалеры, кілім, пакой.

Кінуты чырвоны шарык
Ў келіх, дзе віно-спакуса
І у вільгаці адчаю
Ўжо каралі пекных вуснаў.

І жывая плынь румянцу
Замянёна ценем белым.
І як дзіўным рухам танцу
Скрыўлена панікла цела.

І чужыя свету гукі
З далячыняў набягаюць,
І дрыжаць, і млеюць рукі,
Перлаў здань перабіраюць.

На кіліме трапятанне
Найбялюткае галубкі,
А атручаная вабіць
Залатая вільгаць кубка.

# ВЯРТАННЕ

*Ганне Ахматавай*

Я з дому сышоў, калі ўсе спалі,
Мой спадарожнік хаваўся недзе ў кустах.
Пэўна, нараніцу мяне шукалі,
Але запозна, мы йшлі па палях.

Мой спадарожнік быў жоўты, худы, раскосы.
О, як бязмежна яго ■ любіў!
Пад пярэстай хламідай хаваў ён коску,
Вачыма гадзюкі глядзеў і ныў.

Са старога, і дзіўнага, і небалючага,
І вечнага складалася яго ныццё,
Музыкай звонаў было агучана,
Кідала ў млявасць і забыццё.

Мы бачылі горы, лясы, ваду і
Спалі ў кібітках чужых раўнін,
Часам здавалася — ішлі гады мы,
Здавалася часам — як дзень адзін.

Калі ж мы дасяглі сцяны Кітая,
Мой спадарожнік сказаў мне: «Цяпер бывай,
Адсюль дарогі убок: твая — святая,
А мне, мне сеяць мой рыс і чай».

На белым пагорку, над полем чайным,
Ля пагады Будда сядзеў павольна.
Прад ім я схіліўся, захоплены тайным,
Салодка было як ніколі, ніколі.

Так ціха, так ціха ён свет агучваў,
З вачыма гадзюкі, душой трапяткой
Пра старое і дзіўнае і небалючае
Спяваў, і паветра святлела наўкол.

## НАШЧАДКІ КАІНА

Ён не схлусіў нам, дух чулліва-строгі,
Што носіць зоркі ранішняй імя,
Калі сказаў: «Скарыцеся ў імя
Вышэйшых ведаў, будзеце як богі».

Для маладых адкрыліся дарогі,
А для пажылых — невядомы плён,
І для дзяўчат — плады — бурштыну звон
І белыя, як снег, адзінарогі.

Ды кожны з нас зняможана схіліўся.
Здаецца, быццам Хтось на нас забыўся,
І зразумелы нам прадаўні жах спакусы,

Як выпадкова нечая рука
Складзе накрыж дзве жэрдкі, два драўка.
І раптам пацалунак прама ў вусны?

## ХРЫСТОС

Ён ідзе шляхом жамчужным
Па садах берагавых,
У справунках людцаў — чужасць,
Бо занятыя зямным.

«Прывітанне, ры́бар!
Пастыр!
Клічу вас і наўсягды
Іншую ахоўваць паству,
Іншыя і невады.

Лепш ці рыба, ці гавяда
Чалавечае душы?
Вы, нябеснае гандлярства,
Не лічыце барышы!

Бо не хатка ў Галілеі
Ўзнагародай, перад тым —
Светлы рай, што ружавее
Найружовае гвязды.

Сонца лучна да прыціну,
Чутны подыхі канца,
Але ж лёгка будзе Сыну
Ў Доме чулага Айца».

Не пляніць, не мучыць выбар,
Што ляпей ад Боскіх рос?!
І ідуць пастух і ры́бар
За шукальнікам нябёс.

ЗМЕСТ

Зварот 3
Начное сонца 4
На чужыне 5
«Тады, як Сон...» 7
Забыццё 8
Горад 9
«Ўлагодзілі ногі...» 10
Раманс 11
Харытон 12
Апошні верш пра верш перадапошні 13
На адраджэнне царквы Марыі-Магдаліны 14
Марыя, будзь... 15
«Я ўжо не тая...» 16
Шлях 17
Хрышчэнне 18
Нямко 19
Глог 20
Ранішні шлях 21
«Я прыйду яшчэ да рання...» 23
Ад іх! 24
«Я бяздомная, бы сабака...» 25
«Зімовы жвір аголіць нечы след...» 26
Хто? 27
Гуд 28
«Мой дом пусты...» 29
Прыцішана... 30
За ракою 31
«І вось той дзень...» 32
«Маўклівы сон бясконцай летаргіі...» 33
Беражніца 34
Жвір 35
Трохсоты 36
Воблака 37

«Тут дзве жоўтых хрызантэмы...» 38
«Дзе той...» 39
«Я другадзень яго чакаю марна...» 40
Напамін 41
Нявеста 42
Шлюб 43
Кон 45
Штоночы...46
Мой анёлак 47
Уцёкі 48
Назад... 49
З'явішча 50
На развітанне 51
Гармонія супярэчнасці 52
Часовае знікненне лета 53
Ноч 54
«Будзіць статак маю зараніцу...» 55
Вясна 56
«Таёмны мой...» 57
Згадай...58
Смерць 59
«Я чужая сабе незваротна...» 60
Бераг 61
«Паспее шаргатлівая трава...» 62
Грузія 63
Птушка 64
«Іграе ветраны скрыпач...» 65
«Удачы Вам!..» 66
Лета. Адпачынак 67
«Белапенным воблакам падушак...» 68
Блізкасць 69
Я — гэта я 70
Першы дождж 71
Калядой...72
Зорка мая 73
Храм 74

Шлях 75
Маё непатрэбнае слова 76
Восень 77
Я — эмігрантка 78
Новы год 79
Зіма. Палёт 80
Сягоння 81
«І гэта колацце ў грудзях...» 82
На кухні 83
«Ціха святліцу сваю адчыняеш...» 84
«І што я хацела сказаць...» 85
Уцякачка 86
Яна чакае...87
Каралі 88
Мой год 89
Разгублена...91
На самоце 92
Хвароба 94
«Цябе няма і там...» 95
З Кітаю 96
Жах 97
Бывай! 98
«Адзіноты камень сірочы...» 99
«Прабачай мяне, сінявокі...» 100
Звер 101
«Мы доўга йшлі...» 102
Да волі... 103
«Калі я знямею ў ложку...» 105

*З Мікалая Гумілёва*

Гэта было неаднойчы 106
Сумліў 107
Яна 108
Ля коміна 109
Туркестанскія генералы 111
Сучаснасць 113

Credo 114
Апавяданне дзяўчыны 116
Самазабойства 118
Вяртанне 119
Нашчадкі Каіна 121
Хрыстос 122

**Куртаніч В.**

К93 Начное сонца: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 126 с.

ISBN 5-340-01436-3.

Вольга Куртаніч — аўтар паэтычнага зборніка «Птушыным шляхам» (1990), які прыхільна быў сустрэты чытачамі і крытыкамі.

Новыя вершы паэткі — гэта шчырая споведзь складанай, загадкавай, душы жанчыны, якая назірае, асэнсоўвае Сусвет з недасяжнай вышыні ўнутранага космасу.

**8820600000—106**

**К ———————— 46—94** **ББК 84(4Беи)**

**М 302(03) — 94**

Літаратурна-мастацкае выданне

**КУРТАНІЧ**

**Вольга Іванаўна**

Начное сонца

Вершы

Рэдактар К. Я. Жук. Мастак Г. Г. Малышаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічныя рэдактары М. Ц. Папкова, І. І. Дуброўская. Карэктар Л. М. Маслоўская

Здадзена ў набор 22.03.94. Падп. да друку 08.08.94. Фармат 70×90 1/32. Папера кн.-часоп. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ум. фарб.-адб. 4,83. Ул.-выд. арк. 3,79. Тыраж 1500 экз. Зак. 900.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.